

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 СНЕЖАНЬ 16 Чацвер

№ 238 (673)

Цана 30 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ТАШКЕНТ — ГОРАД ХЛЕБНЫ. І «БАВАЎНЯНЫ»

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч вярнуўся з Ташкента. Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН, у ходзе візіту кіраўніка беларускага парламента ва Узбекістан абмяркоўваліся пытанні пастаўкі Беларусі бавоўны ў 1994 годзе.**

**Каменціруючы па просьбе карэспандэнта БелаПАН вынікі візіту, Станіслаў Шушкевіч, у прыватнасці, заявіў:**

**— Нам трэба мець дакладнасць у адносінах з тымі партнёрамі, з якімі мы падтрымліваем цесныя эканамічныя сувязі. Гэта быў рабочы візіт, узгоднены з кіраўніцтвам нашага ўрада. На жаль, Знешнепалітычнае ведамства Беларусі не зусім добра валодае сітуацыяй з дзяржавамі СНД, каб можна было даверыць яму рыхтаваць і праводзіць гэты візіт.**

**Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што ў ходзе візіту было дасягнута поўнае ўзаемаразуменне з кіраўніцтвам Узбекістана. Не ўсё вырашана такім чынам, як хацелася б Беларусі, адзначыў Старшыня Вярхоўнага Савета, высвятленне пазіцый заняло не адну гадзіну. Аднак, па яго словах, у Ташкенце добразычліва ставяцца да нашых патрэб. У ходзе перамоваў былі дакладна абазначаны перспектывы беларускай лёгкай прамысловасці на наступны год, паколькі дасягнута дамоўленасць аб надзейных пастаўках бавоўны.**

**Алесь ЛІПАЙ.**

### ЖИРИНОВСКИЙ ВЕРИТ ПРОГНОЗАМ ГЛОБЫ

Это подтвердил вчера в информационно-культурном центре Совмина Беларуси П.П.Глоба, куда собрались все желающие лицезреть знаменитого астролога. Но больше всего, конечно, было его учеников. Именно вчерашним вечером глубоко почитаемый ими учитель начал читать новый курс: медицинскую астрологию.

Перед лекцией П.П.Глоба, участник Кремлевского телемарафона в ночь на 13 декабря, свидетель триумфа В.В.Жириновского, имевший там с последним беседу, сообщил, что Владимир Вольфович с чувством глубокого удовлетворения отметил роль прогнозов Глобы в его политической судьбе. Мимо внимания вездесущего Жириновского не проскользнуло утверждение Глобы, сделанное на одной из лекций, о том, что для него, Владимира Вольфовича, 1993 год — звездный час.

Что интересно, в досье Жириновского оказалось и одно из выступлений Глобы, в котором упоминался Владимир Вольфович и которое знаменитый астролог делал у нас в Минске. Оказывается, и у нас в Минске, в рядах учеников Глобы, у Жириновского есть свои люди?..

**Тамара МАРКИНА.**

### *«ХАЧУ ЖЫВУЮ ДУМУ ДУМАЦЬ...»*

***Так называецца вечарына, прысвечаная памяці паэта Кастуся Кірэнкі, якому 12 снежня споўнілася 75 гадоў.***

***Нагадаю, што нарадзіўся паэт у вёсцы Гайшын Слаўгарадскага раёна. Скончыў Гомельскі педінстытут. Удзельнік Айчыннай вайны. Друкавацца пачаў з 1939 года. Першы зборнік вершаў «Ранак ідзе». Аўтар кніг «Пасля навальніцы», «Мая рэспубліка», «Маякі», «Любоў і дружба» і іншых. Паэзія Кастуся Кірэнкі характарызуецца тонкім псіхалагізмам, метафарычнасцю, далучанасцю да фальклорнай вобразнасці. Кастусь Кірэнка — заслужаны дзеяч культуры Беларусі.***

***Вечарына памяці паэта адбудзецца сёння ў Доме літаратара ў 18.30. На ёй чакаюцца выступленні народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, іншых беларускіх літаратараў, а таксама артыстаў сталічных тэатраў, кампазітара Уладзіміра Будніка, спявачкі заслужанай артысткі рэспублікі Ганны Радзько.***

**Віктар СТРЫЖАК, «ДВ».**

### *В ПОДЗЕМЕЛЬЯХ МИНСКА...*

*20 тысяч абонентов Московского района Минска недавно остались без телефонной связи, так как медным кабелем, обеспечивающим эту связь, решили воспользоваться рабочий малого предприятия и его неработающий дружок. Спустившись в подземные коммуникации, они вырезали 2 куска кабеля длиной 160 и 80 метров.*

*Но были задержаны с похищенным патрульным нарядом Московского РОВД.*

**Павел МОРОЗ.**

### ОБСУЖДАЛАСЬ БЕЗОПАСНОСТЬ

***Международная конференция «Новые дилеммы безопасности: проблемы и перспективы» проходила 13–15 декабря в Минске.***

***В ней, как стало известно корреспонденту РИДа, участвовали Беларусь, Великобритания, США, Украина, Франция, а также представители руководства НАТО и СНГ.***

***На конференции обсуждались многие важные вопросы европейской и международной безопасности. Организована конференция была Институтом перспектив развития и безопасности Беларуси.***

## ГРАМАДА

### ДЭМАХРЫСЦІЯНЕ ПРАПАНУЮЦЬ ПРАЕКТ «ВЯРТАННЕ»

**Алесь СЯРГЕЕЎ, «ДВ».**

**18 снежня адбудзецца канферэнцыя Беларускай Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці. Зразумела, што гэта партыя выступае за адраджэнне ў нашым грамадстве хрысціянскіх гуманных прынцыпаў, за грамадзянскую і канфесійную згоду, за пабудову на Беларусі дэмакратычнай, свабоднай ад таталітарызму дзяржавы.**

**Але на канферэнцыі БХДЗ будзе разглядаць і больш канкрэтныя праблемы, так бы мовіць, тактычныя задачы партыі.**

**Якія?**

**На гэта пытанне даў адказ выконваючы абавязкі сакратара ўправы злучнасці паэт Алег БЕМБЕЛЬ:**

— На канферэнцыі мы будзем абмяркоўваць наш удзел у магчымых датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет новага склікання і, зразумела, — перадвыбарную партыйную платформу. Адна з састаўных частак згаданай платформы — праект БХДЗ «Вяртанне», з канцэпцыяй каторай я і хачу пазнаёміць чытачоў «Добрага вечара».

Дык вось, мы ў мірской штодзённай мітусні мала думаем пра тое, што хрысціянская Царква вось ужо цэлае тысячагоддзе з'яўляецца не толькі духоўным камертонам грамадства, але й моцным і чыстым па сваёй маральнасці гаспадарчым механізмам, асяродкам і цэнтрам рэальнай міласэрнасці, прытулкам абяздоленых. Сябры БХДЗ глыбока перакананыя, што пасля больш чым 70-гадовага бальшавіцкага гвалту над Царквой настаў час вярнуць ёй магчымасць у поўнай меры выконваць названую місію. Гэта азначае — вярнуць ёй землі, збудаванні, іншыя каштоўнасці, адабраныя пасля 1917 года.

Акт неадкладнага і безумоўнага вяртання Царкве ўсяго адабранага ды канфіскаванага мусіць стаць адным з першых актаў новага Беларускага парламента. Альбо адным з самых значных дакументаў цяперашняга Вярхоўнага Савета. Гэта, безумоўна, умацуе духоўную легітымнасць улады, стратэгічную стабільнасць грамадства, а значыцца і дзяржавы, гаспадарчае і маральнае здароўе народа. Мноства людзей, якіх узноўлены рынак паставіць за межы фінансавага поспеху і нават — на мяжу выжывання, знойдзе прытулак і апекаванне ў царкоўнай гаспадарцы — так, дарэчы, было традыцыйна ў нашым папярэднім тысячагоддзі.

Мы разлічваем, што ў дэпутацкім складзе новага Беларускага парламента — незалежна ад сённяшніх персаналіяў ды партыйных хаўрусаў — будзе стабільная большасць хрышчоных праваслаўных людзей, бо каля васьмі дзесятых тутэйшых выбаршчыкаў — праваслаўныя. Мяркую, што й нашы браты-каталікі, трапіўшыя ў Вярхоўны Савет новага склікання, падтрымаюць Канцэпцыю праекта «Вяртанне». Між іншым, ніхто не замінае зрабіць такі крок парламенту цяперашняму. І тым самым выкупіць значную частку сваіх папярэдніх грахоў.

Царква зноў павінна стаць першым пасля дзяржавы зямельным уласнікам. На іх узняліся б разбураныя ў нядаўнім мінулым манастыры, бальніцы, прытулкі для абяздоленых, сталовыя для галодных. Там у якасці насельнікаў або паслушнікаў знайшлі б свой новы лёс былыя нявольнікі ВПК, шахтаў, кар'ераў, заводаў, якія спустошылі людскія душы ды атруцілі прыроднае асяроддзе.

Маючым уладу хачу заўважыць, што энергія пакаяння мацней нават за ядзерную спакусу. Свет зведаў гэта праз пакаянны шлях таго ж акадэміка Сахарава. Падумайце, спадары парламентарыі ды ўрадаўцы, пра гэта, калі яшчэ ў вашых душах засталася хаця іскрынка любові да Бога і свайго народа...

Вакол Царквы, як рэальнага духоўнага і гаспадарчага камертона, будуць паступова гарманізавацца й іншыя сферы нашага жыцця — адукацыя, культура, мастацтва. Новыя пакаленні людзей павінны выхоўвацца на падмурку Божай Святасці, а не на гісторыі гвалтоўнага гераізму войнаў, якія нярэдка былі неапраўданымі ды несправядлівымі. Гістарычная сімфонія Царквы і Дзяржавы, увабраўшы ўвесь папярэдні вопыт мінулых вякоў, загучыць па-новаму. Двух-«паўшарная» сістэма ўлады — Царква-Дзяржава — і трохскладная формула землеўладання «Царква-Дзяржава-сябрыны й асобныя ўладальнікі» — гэта вякамі адшліфаваная мадэль здаровага соцыуму, гармоніі Божых стварэнняў — чалавека ды прыроды.

Сёння мы прапануем праект «Вяртання» свецкай уладзе. Калі ён спраўдзіцца — гэта стане пачаткам нашага агульнага вяртання: да Божага пачатку ў саміх сабе, да цэласнасці нашае гістарычнае рэтра й перспектывы, да наступных пакаленняў, у якіх мы амаль адабралі правы на жыццё...

## КАЛЯНДАР

*СОНЦА — 8.22/15.48.*

*Даўжыня дня — 7.26.*

*МЕСЯЦ — маладзік 13 снежня,*

*ухад 8.58/захад 17.53.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Савы, Сафоніі.*

*Каталіцкія — Альбіны, Здзіслава.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Варвары Вялікамучаніцы, Івана, Юльяны.*

*Каталіцкія — Алімпіі, Лазара.*

## ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИИ

### НЕТ ЗДОРОВЫХ В НАШЕМ ОТЕЧЕСТВЕ

**Галина КАЛЕВИЧ, «ДВ».**

Да, сегодня в Беларуси практически нет здоровых людей. Причины всем понятны — экологическое неблагополучие. Дальше не будет лучше — больны наши дети.

Например, в Минске у каждого второго ребенка — дефицит витаминов в организме. У большинства снижен иммунитет к заболеваниям как вирусного характера, так и вызванным последствиями чернобыльской катастрофы. Особенно это касается жителей Заводского района столицы. Дети же, например, микрорайона Зеленый Луг меньше подвержены влиянию отрицательных экологических факторов.

Так, содержание тяжелых металлов в организме у детей Заводского района превышает допустимые нормы на 20 процентов. У детей из Зеленого Луга — на 13 процентов. У многих юных «заводчан» выявлены изменения в области почек.

Эти печальные выводы сделала медицинская комиссия, в состав которой входили представители горсовета и некоторых частных фирм. Работала она на протяжении двух последних лет, обследовав 3,5 тысячи детей.

О результатах ее работы рассказал журналистам на пресс-конференции заместитель председателя Мингорисполкома Игорь Борисович Зеленкевич.

Во время исследования также выяснилось, что у малышей от 6 до 12 месяцев, независимо от района проживания, значительно повышена концентрация нитратов в моче. При обследовании детей на содержание в крови радиоактивного цезия не обнаружено превышения допустимых норм. Однако у 13 процентов выявлена тенденция к накоплению радионуклидов. 90 детей из 100 страдают кариесом. В республике растет число детей с заболеваниями щитовидной железы, в том числе онкологическими.

— Эта проблема требует дальнейшего и самого серьезного изучения, — сказал И.Б.Зеленкевич. Он поведал и о том, что в ближайшее время будет проводиться «витаминизация» юных минчан. Однако на всех детей витаминов не хватит, поэтому раздаваться они будут в поликлиниках наиболее ослабленным детям.

Безусловно, исследования медкомиссия провела основательные. И, как заметил Игорь Борисович, проведены они не ради «галочки». По ее выводам в городе будут приниматься необходимые меры. Главное здесь, конечно, — улучшение экологической обстановки в нашей столице. Но сегодня в это мало кто верит. Возможно, когда-то что-то и будет предприниматься. Сейчас же, похоже, всем не до этого. А посему в который раз мы вновь должны вспомнить и об утопающем, который спасает себя сам, и о том, что болезнь все же легче предупредить.

Мамам, начинающим подкармливать своих малышей с трехмесячного возраста овощами и фруктами, комиссия рекомендовала самим обращать внимание на качество продуктов. Чаще проверять их в специально оборудованных пунктах контроля, а также неплохо бы приобрести лакмусовый индикатор... Оказывается, это совсем несложно сделать.

И еще, поскольку всех юных минчан «витаминизация» не охватит, позаботьтесь, уважаемые родители, и об этом сами. Известно, что для детского организма «живые» витаминки — соки, пюре, сырые фрукты и овощи — даже полезнее аптечных. Не забывайте об этом, как и о том, что растущий детский организм требует этой «подпитки» постоянно.

Ну а, к слову, грейпфрут (1 штучка) стоит сегодня около 3 тысяч; 1 апельсинчик — 1200 рублей, 1 лимон — полторы тысячи. Дальше будет еще больше...

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 16 декабря 1993 года

| Наименование банка | Доллар США | | | Немецкая марка | | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | | Продажа | Покупка | | Продажа | Покупка | Продажа |
| | Наличный расчет | Чековая книжка | | Наличный расчет | Чековая книжка | | | |
| АРКБ "Комплекс" | 5120 | 5630 6600 | 5375 | 3000 | 3300 3750 | 3150 | 3.75 | 3.95 |
| АКБ "Белвнешэкономбанк" | 5100 | 5610 | 5450 | 2990 | 3289 | 3195 | 3.70 | 4.07 |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 5100 | * * | 5550 | 2980 | * * | 3260 | 3.75 | --- |
| АКБ "Белпромстройбанк" | 5100 | 6174 | 5500 | 2900 | * * | 3105 | 3.70 | 4.10 |
| АКБ "Беларусь" | --- | 6650 | --- | --- | 3895 | --- | --- | 4.80 |
| ГКБ "Сбербанк" | 5095 | 5290 | 5305 | 2980 | 3120 | 3275 | 3.65 | 4.00 |
| АКБ "Приорбанк" | 5200 | 5720 | 5350 | 3045 | 3350 | 3135 | 3.50 | 4.50 |
| КБ "ПРОФБАНК" (на 14.12.93) | --- | 5500 6500 | --- | --- | 3800 | --- | 3.90 | 4.20 |
| КБ "Северо-Запад" | --- | 6272 6468 | --- | --- | 3626 3724 | --- | --- | --- |
| АКБ "Белбизнесбанк" центр. отд. | 5100 | * * | 5400 | 2960 | * * | 3180 | 3.85 | 4.20 |
| Национальный банк РБ | 7490.00 | | | 4390.88 | | | 4.33 | |

** -- не принимают

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

## ДЕЛОВОЙ МИНСК

### ТАЙНА ПРЕЛЕСТИ МАДАМ БАТТЕРФЛЯЙ

**Тамара МАРКИНА, Михаил ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».**

Ее, оказывается, открыли польские парфюмеры. Не оттого ли так прекрасны польки, считающиеся по праву одними из самых красивых женщин мира?

Есть уникальные рецепты женского очарования и молодости от польской фирмы со 100-процентным английским капиталом «Баттерфляй косметик». Кремы, шампуни этой марки удостоены многих наград международных выставок. Продукцию фирмы в числе новинок ряда престижных фирм Польши, производящих косметические средства, минчане (а особенно минчанки) могли увидеть на выставке «Все для красоты» в магазине «Алеся» (пр.Машерова, 3).

Основная тенденция новинок — подчеркнуть, сохранить натуральную красоту. Поэтому во всех изделиях широко используются натуральные компоненты из природных, экологически чистых продуктов, последние достижения науки.

Отметим продукцию концерна «POLLENA». Так, стенд ВТО ЦИЭХ украсила серия косметики «Касико», серия шампуней «ЭВА», зубная паста для курильщиков, которая очищает эмаль от налета никотина, возвращает ей природный цвет. Товары от «VISCAN» (Вроцлав) заинтересуют и самых маленьких, и женщин, причем они имеют сертификаты польских медицинских учреждений.

Фирма «Chantal» (Варшава) представила практически все, что необходимо иметь каждому для ухода за волосами, чтобы они были здоровыми и красивыми. Причем расфасовка как для личного пользования, так и для парикмахерских.

Ну что можно сказать о французских духах, названия которых звучат для слуха женщин, как музыка? Официальный представитель ряда ведущих парфюмерных фирм Франции — «ТЕМДЕ» (Минск) предлагает как хорошо знакомое, так и новое для нас.

**Сергей РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.**

### *УБИЙЦЫ ЗАДЕРЖАНЫ*

**В тот трагический вечер водитель минского таксомоторного парка, как обычно, выехал на работу. А вот утром следующего дня домой он не вернулся. И когда его сменщик позвонил на квартиру и поинтересовался у супруги, где Чеслав, та не на шутку встревожилась. На работе подняли тревогу, подключили милицию. В тот же день машину с шашечками нашли в микрорайоне Серебрянки. При тщательном осмотре машины на подлокотнике сидения и в багажнике обнаружили следы крови.**

**12 декабря в Ленинский райотдел внутренних дел от администрации таксопарка № 3 арендного предприятия «Минсклегавтотранс» поступило сообщение, что из рейса не вернулся один из водителей. Сообщили и номер машины. Все данные передали в управление внутренних дел Мингорисполкома. Сюда же поступила и информация о том, что эту машину видели в разных районах Минска. Начались поиски. А вскоре сотрудник ГАИ Советского РОВД капитан илиции С.Гнездилов остановил указанную машину на улице Куйбышева. За ее рулем сидел 21-летний С. Он признался, что вместе с 19-летним парнем, который дезертировал из армии, они убили таксиста, а потом спрятали труп в лесу. 13 декабря сотрудники уголовного розыска УВД г.Минска задержали и другого убийцу. Как выяснилось в ходе предварительного следствия, они таким образом в ноябре и декабре убили четырех таксистов, в том числе и Чеслава Самулевича, а пятого водителя тяжело ранили. Следствие продолжается.**

### *ПО «ГОРЯЧИМ» СЛЕДАМ*

Патруль Октябрьского РОВД по улице Комсомольской задержал 23-летнего жителя Молдовы П. и ранее судимого жителя Минской области Ю. Будучи в нетрезвом состоянии, у дома по улице Кирова они отняли у прохожего доллары, рубли и бобровую шапку. Скрыться с этой добычей преступникам так и не удалось — с момента преступления до задержания прошло всего 10 минут.

### *МЕТАЛЛ ПО-ПРЕЖНЕМУ В ЦЕНЕ*

**На столичном криминогенном горизонте вновь замаячили цветные металлы. Милиционеры взвода по охране Минского автозавода задержали 36-летнего заводчанина В., унесшего с предприятия 25 килограммов бронзы. Чуть позже с аналогичной «поклажей» «попались» еще два автомобилестроителя. А еще через некоторое время у забора Минского подшипникового завода «засветились» еще два «металлиста» (один ранее неоднократно судимый). С территории этого предприятия злоумышленники сумели похитить 340 килограммов латунных изделий на внушительную сумму.**

**Судя по всему, «металлический бум» в криминальной среде продолжается.**



Редакция газеты «Добры вечар» приносит извинения АКБ Приорбанк и филиалу АКБ Приорбанк — Автомазбанк в связи с ошибками в оформлении рекламного объявления, опубликованного в газете за 15.12.1993 г.

